**№125 (1938)**
Субота, 10 ліпеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +25...+27, сонечна, уначы — +13...+15, дождж; у Брэсце ўдзень — +17..+19, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +17...+19, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +15..+17, дождж, уначы — +14...+16, дождж; у Гомелі ўдзень — +24...+26, навальніца, уначы — +17...+19, дождж; у Магілёве ўдзень — +16...+18, дождж, уначы — +16...+18, дождж.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## З 10 ліпеня кошт праезду ў гарадскім камунальным транспарце ў Мінску павялічыцца на 50 рублёў

Праезд у гарадскім камунальным пасажырскім транспарце горада Мінска (аўтобусе, трамваі, тралейбусе і метро) павялічаны да 300 рублёў.

Для пасажыраў, якія маюць ільготы на праезд, кошт адной паездкі складзе 150 рублёў. Вадзіцелі гарадскога камунальнага пасажырскага транспарту будуць рэалізоўваць талоны на праезд па 350 рублёў.

Кошт паездкі ў аўтобусах экспрэсных маршрутаў складзе 600 рублёў, а для пасажыраў, якія маюць ільготы, — 300 рублёў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Крэдытная лінія для нарыхтоўкі садавіны, гародніны, ягад і грыбоў

У рамках рэалізацыі пастановы Савета міністраў “Аб выдзяленні крэдытаў для нарыхтоўкі садавіны, гародніны, ягад і грыбоў” ад 30 чэрвеня гэтага года, рашэннем крэдытнага камітэта ААТ “Белаграпрамбанк” адкрыта крэдытная лінія на суму 15,8 млрд. рублёў.

Крэдыты па гэтай лініі будуць выдзелены плацежаздольным арганізацыям канцэрна “Белдзяржхарчпрам”, Белкаапсаюза і Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

## Едзеш — плаці!

У Беларусі распрацоўваюцца меры па павелічэнні аб'ёмаў валютных паступленняў ад замежных карыстальнікаў за праезд па аўтамабільных дарогах краіны. Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў дырэктар дэпартамента “Белаўтадар” Міністэрства транспарту і камунікацый Аляксандр Мінін.

Ён адзначыў, што зараз рыхтуюцца неабходныя змяненні ў нарматыўна-прававую базу, з тым каб упарадкаваць сістэму збірання сродкаў за праезд замежных карыстальнікаў па аўтадарогах краіны. Збіранне такіх сродкаў ажыццяўляецца пры ўездзе на тэрыторыю Беларусі або выездзе з яе тэрыторыі ў пунктах пропуску цераз дзяржаўную мяжу.

Паводле слоў А.Мініна, стаўкі платы напрамую будуць залежаць ад часу знаходжання замежнага карыстальніка на тэрыторыі Беларусі, падобна еўрапейскай віньетцы. Прычым чым больш часу ён тут знаходзіцца, тым меншым будзе аб'ём збору. “Суткі, напрыклад, будуць каштаваць для замежнага грузавіка 25 долараў, а тыдзень — 70 долараў”, — сказаў Мінін.

За апошнія 7 гадоў аб'ём сродкаў, атрымліваемых з гэтай крыніцы, значна скараціўся: з 33 млн. долараў у 1996 годзе да 6,8 млн. долараў — у 2003 годзе. “Атрымліваецца, што замежныя карыстальнікі працягваюць ездзіць, а ўсе выдаткі нясе беларускі падаткаплацельшчык”, — адзначыў Мінін.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Ствараюцца заказнікі

Два біялагічныя заказнікі ствараюцца ў Навагрудскім раёне. Неабходнасць гэтага прадыктавана тым, што за апошнія гады колькасць дзікіх жывёл у тутэйшых лясах моцна скарацілася ў выніку актыўнай паляўнічай дзейнасці.

Заказнікі будуць размяшчацца ў двух супрацьлеглых кутках рэгіёна. Адзін з іх — на мяжы з Лідскім раёнам, уздоўж ракі Ізвы, на тэрыторыі 5 тысяч гектараў. Адсюль і яго назва — Ізвенскі. На працягу пяці гадоў ён будзе закрыты для паляўнічых, рыбаловаў і турыстаў, каб жывёльны і раслінны свет змог за гэты час аднавіць свой прыродны патэнцыял.

Другі заказнік плануецца размясціць за Нёманам, у Графскай пушчы, што з'яўляецца часткай Налібоцкай. Паколькі яго тэрыторыя займае плошчы адразу трох раёнаў — Стаўбцоўскага, Карэліцкага і Навагрудскага, ёсць усе шанцы для надання заказніку статусу рэспубліканскага.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

**СКАНДАЛ**

# Уладзіміра Парфяновіча выключаюць з НАКа?

### Выканкам НАК прапанаваў выключыць са складу Нацыянальнага алімпійскага камітэта трохразовага алімпійскага чэмпіёна Уладзіміра Парфяновіча

Такое рашэнне было прынята 8 ліпеня ў рабочым кабінеце міністра спорту і турызму **Юрыя Сівакова.** Дарэчы, гэта было другое запар пасяджэнне выканкама НАК Беларусі за апошнія тры дні. Калі выканкам збіраўся ў першы раз, рашэнне наконт Уладзіміра Парфяновіча прынята не было.

Раніцай 8 ліпеня карэспандэнт “Народнай волі” разам з калегамі з іншых выданняў прыйшоў у Міністэрства спорту і турызму, каб трапіць на пасяджэнне выканкама НАК. Але прадстаўнікоў СМІ ў кабінет міністра не пусцілі, спаслаўшыся на рашэнне выканкама...

*“Як можна на сённяшні дзень забараніць прэсе прымаць удзел у рабоце грамадскай арганізацыі? Да той пары, пакуль у Рэспубліцы Беларусь не будзе свабоды СМІ, пакуль мы будзем краінай-ізгоем, якая самаізалявалася ад цывілізаванага свету, датуль мы не зможам перамагчы ні карупцыю, ні перавышэнне службовых паўнамоцтваў асобнымі таварышчамі...”* — заявіў у інтэрв'ю “Народнай волі” **Уладзімір Парфяновіч.**

І ўсё ж вечарам 8 ліпеня з прэс-цэнтра НАК у рэдакцыю прыйшоў факс, у якім гаворыцца: *“Выканкам Нацыянальнага алімпійскага камітэта адзначае, што член НАК Беларусі У.У.Парфяновіч, не надаючы належнай увагі рэалізацыі ўскладзеных на яго грамадскіх задач па кіраўніцтве арганізацыямі, якія ўваходзяць у склад НАК Беларусі, не апраўдаў ускладзеныя на яго функцыі па кіраўніцтве і арганізацыі эфектыўнай дзейнасці рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Алімпійскі фонд", галоўная мэта дзейнасці якога — прыцягванне фінансавых сродкаў для развіцця алімпійскага руху ў рэспубліцы.*

*Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь устанавіла, што грамадскае аб'яднанне, якое ён узначальвае, неаднаразова і груба парушала заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якое рэгламентуе дзейнасць грамадскага аб'яднання, у выніку чаго рашэннем Вярхоўнага суда ад 19 чэрвеня 2003 года, зыходзячы з п.п 2.3 арт.29 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" і п.2 арт.57 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь РГА "Алімпійскі фонд" ліквідавана".*

Тут дазволім сабе перарваць цытаванне гэтага дакумента і дадзім слова трохразоваму алімпійскаму чэмпіёну Уладзіміру Парфяновічу: *“Алімпійскі фонд, які я ўзначальваў у свой час, абсалютна* **бязвыплатна** *перадаў 10 кватэр Нацыянальнаму Алімпійскаму камітэту — гэта першае. Другое, аб прыцягненні якіх фінансавых сродкаў можа ісці гаворка, калі па часовым дыкрэце прэзідэнта грамадскае аб'яднанне "Алімпійскі фонд" не мела права займацца камерцыйнай дзейнасцю?..*

*Падставай для ліквідацыі РГА “Алімпійскі фонд”, бачыце, сталі такія “грубейшыя” парушэнні, як тое, што у мінскім фондзе выявілі неадпавяданне бланкаў і пячаткі нейкім патрабаванням. Таксама былі выяўлены парушэнні з рэгістрацыяй і юрыдычным адрасам...”*

Чытаем дакумент далей:

*“Акрамя гэтага, член НАК Беларусі Парфяновіч У.У. парушыў п.4.10, абзац 2 Устава Нацыянальнага алімпійскага камітэта і сваімі дзеяннямі нанёс маральны ўрон алімпійскаму руху і прынцыпам алімпізму.*

*Дадзеныя пастанаўленні выканкама НАК Беларусі будуць унесены для зацвярджэння на чарговым Алімпійскім сходзе".*

Сам Уладзімір Уладзіміравіч не лічыць, што сваімі дзеяннямі нанёс маральны ўрон алімпійскаму руху: *“Чым я нанёс урон? Тым, што выказаў сваю пазіцыю наконт таго, што беларусы заваююць на Алімпіядзе не 25 медалёў, а 14. Я хачу, каб іх было і 25, і 30! Але, зыходзячы з уласных разлікаў, я думаю, што для маленькай Беларусі было б добра, каб мы паўтарылі поспех Алімпіяды ў Сіднеі, дзе ў нас было 17 узнагарод”.*

8 ліпеня ў спартыўнай газеце “Прессбол” быў апублікаваны матэрыял “Политический сюрпляс олимпийского движения”, у якім расказвалася пра першае пасяджэнне выканкама НАК, якое адбылося 7 ліпеня. Паводле гэтай публікацыі, міністр спорту і турызму Беларусі **Юрый Сівакоў** сказаў на выканкаме наступнае: *“Учора запрашалі Парфяновіча. Ён заявіў, што пойдзе да канца. І прыгразіў, што каманда па грэблі на байдарках і каноэ з 11 чалавек у знак пратэсту на Алімпіяду не паедзе. І ён будзе звяртацца ў МАК, каб у дачыненні да Беларусі былі прыняты адпаведныя санкцыі”.*

Нагадаем, што ў свой час Уладзімір Парфяновіч сам стаў ахвярай байкоту, не трапіўшы на Алімпіяду ў Лос-Анжэлесе, якая праходзіла ў 1984 годзе: *“Мяне, мякка кажучы, "засмуціла" гэтая публікацыя “Прессбола”. Напэўна, буду падаваць на газету ў суд.*

*Я заўсёды выступаў за тое, каб кожны спартсмен, які заваяваў алімпійскую ліцэнзію сваім потам і крывёю, паехаў на Алімпіяду. Я неаднаразова выступаў таксама і на Алімпійскіх сходах за тое, што ніхто — ні ўрад, ні прэзідэнт — не маюць права пазбаўляць спартсменаў магчымасці па якіх бы то ні было прычынах выехаць на Алімпіяду ці іншыя спаборніцтвы. Заяўляць падобнае ў мой адрас — проста дзікунства! Мне гэта прыпісваецца дзеля таго, каб выставіць мяне як чалавека, які будзе перашкаджаць выезду беларускіх спартсменаў, незалежна ад віду спорту, для ўдзелу ў Алімпіядзе. Я не ўяўляю сабе, як можна было дадумацца да падобнага! Тое, за што я змагаюся ўсё жыццё паставіць мне ў віну..."*

Каб агучыць сваю пазіцыю, Уладзімір Парфяновіч збіраецца пайсці на Алімпійскі сход: *“Я абавязкова пайду на Алімпійскі сход, калі мяне туды пусцяць... Там я збіраюся прасіць слова. І толькі ў тым выпадку, калі мне не дадуць выступіць на Алімпійскім сходзе, я збіраюся звярнуцца ў Міжнародны Алімпійскі камітэт, аб чым ужо гаварыў у інтэрв'ю "Народнай волі".*

Чакаецца, што Алімпійскі сход адбудзецца на будучым тыдні.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Фота photo.bymedia.net**



*Нават трохразоваму алімпійскаму чэмпіёну Уладзіміру Парфяновічу цяжка веславаць супраць цячэння...*

**МІНСК—МАСКВА**

# Пайсці, каб вярнуцца?

### *У Маскве разглядаюць магчымыя сцэнарыі працягу паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі*

“Русский журнал”, уплывовае маскоўскае выданне, якое рэдагуе вядомы расійскі палітолаг, прэзідэнт Фонду эфектыўнай палітыкі **Глеб ПАЎЛОЎСКІ,** “выбухнуў” на гэтым тыдні велізарным артыкулам “Уйти, чтобы вернуться”, у якім разглядаюцца пяць магчымых “хітрыкаў”, пры дапамозе якіх дзеючы кіраўнік беларускай дзяржавы можа застацца на сваёй пасадзе яшчэ на неабмежаваны тэрмін. І тым, што Лукашэнка на гэта пойдзе, “Русский журнал” не сумняваецца. *“Вот уже год, как в Белоруссии идет массированная кампания по восхвалению президента Александра Лукашенко и дискредитации его оппонентов. И даже отсутствие стоящих информационных поводов — не помеха для государственных пропагандистов. Вот дорогой Александр Григорьевич раскланивается со звездами "Славянского базара". Вот он посещает Чернобыльскую зону, обещает превратить неперспективные деревни в перспективные. В мундире с маршальскими погонами во время празднования Дня Независимости принимает парад военной техники и предостерегает Запад от вероятного нападения на Белоруссию”,* — піша выданне Глеба Паўлоўскага.

Першы варыянт “вечнага прэзідэнцтва”, на думку расіян, можа быць рэалізаваны праціскannем праз лаяльных Лукашэнку дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў (а такіх большасць) законапраекта, згодна з якім прэзідэнта ў Беларусі зможа выбраць не народ, а “парламент”. Дэпутатам ледзь не паабяцаюць вечнае дэпутацтва ў абмен на падтрымку А.Р. на новы тэрмін “ашчаслівання” беларускага народа.

Але ў гэтага сцэнарыя ёсць недахоп, піша “Руссий журнал”: *“Возможность претворения данного сценария минимальна в силу крайней подозрительности Лукашенко... Александр Григорьевич, наверное, в силу воспитания и жизненного опыта не доверяет самым близким и преданным ему людям”.*

Другі сцэнарый звязаны з “гульнямі ў адстаўку”: Лукашэнка ставіць на чале ўрада адданага яму да мозгу касцей чалавека, а затым за некалькі месяцаў да прэзідэнцкіх выбараў ідзе ў адстаўку, пакідаючы прэм'ера кіраваць дзяржавай. *“Оппозиция ликует и выставляет претендентами на высший пост заведомо непроходных кандидатов,* — прагназуе "Русский журнал". — *Народ разочарован и впадает в апатию, ибо главным вопросом белорусской политики всегда было “Кто же, если не он?”, а убедительного ответа на него никто так и не дал. И тут среди десятка “ветеранов демократического движения” и откровенно смешных персонажей появляется... Лукашенко".* Ён кажа, што перадумаў сыходзіць на пенсію, і... усё вяртаецца на “кругі своя”.

Трэці сцэнарый (дарэчы, на думку спецыялістаў, самы малаверагодны) звязаны з увядзеннем у Беларусі надзвычайнага становішча: *“Согласно недавно появившемуся в Белоруссии закону, его срок может длиться не более 30 дней. Однако в случае, если в течение этого месяца цели ЧП не будут достигнуты, президент может его продлить своим указом на неопределенное количество времени”.* Пасля ўвядзення “надзвычайкі” Лукашэнка ў сувязі з “варожымі намерамі” суседніх дзяржаў і неабходнасцю змагацца са шматлікімі ворагамі аб'яўляе сябе “беларусбашы”. Назаўжды!

Чацвёрты варыянт “Batska — forever” (*"Бацька — назаўсёды"*) расіянам бачыцца ў правядзенні Усебеларускага сходу: *“И если прежде данные форумы воспринимались Лукашенко исключительно как PR-акция накануне очередных выборов, то почему бы не использовать ставшие традиционными собрания как механизм устранения мешающей статьи в Конституции? Кто-то скажет, что это неприкрытое нарушение законодательства и "вече" не имеет никаких юридических полномочий. Однако Александра Григорьевича такие мелочи никогда особенно не смущали. (Вспомнить хотя бы заявления экс-председателя Конституционного суда Валерия Тихини о том, что к июлю 1996 года Лукашенко не раз преступил закон). Главное — значительно растянуть во времени выдвижение кандидатов и создать иллюзию всеобщего участия в этом процессе. Но тут уж президентская вертикаль и подконтрольные главе государства СМИ сделают свое дело".*

І, безумоўна, рэферэндум аб працягу паўнамоцтваў можа разглядацца як пяты варыянт, на які Аляксандр Рыгоравіч, на думку “Русского журнала”, не павінен вельмі спадзявацца: *“Популярность Лукашенко в народе далеко не та, что в 1995 году, когда был проведен первый в независимой Белоруссии плебисцит. Значительно упал рейтинг президента и в сравнении с 1996 годом, когда в результате всенародного волеизъявления Александр Григорьевич не только избежал импичмента, но и впервые продлил свои полномочия”.*

**Уладзімір НІСЦЮК,** першы намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), адзначыўшы ў інтэрв'ю “Народнай волі”, што ўсе пяць сцэнарыяў “Русского журнала” ён называў яшчэ два гады таму, лічыць, што не будзе рэалізаваны ніводзін з іх: *“Прагназаваць, што зробіць Аляксандр Рыгоравіч, немагчыма, няўдзячная гэта справа. Мне, напрыклад, бачыцца, такі магчымы варыянт — Лукашэнка перад выбарамі 2006 года нагнятае сітуацыю ў краіне, потым, ні на кога не звяртае ўвагі, ідзе на трэці тэрмін праз тлумачэнне Канстытуцыі Канстытуцыйным судом. У выпадку, калі яму спатрэбіцца падтрымка "палаткі", то яна гэтую падтрымку забяспечыць. Іншымі словамі, магчымая стратэгія Лукашэнкі — пасварыцца з усімі, пайсці на трэці тэрмін, “абрацца”, а потым з усімі памірыцца".*

На думку **Таццяны ПРОЦЬКА,** старшыні РГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт", сцэнарый з рэферэндумам — рызыкоўны для кіруючага рэжыму, самае верагоднае — чацвёрты варыянт з Усебеларускім сходам: *“Працяг паўнамоцтваў праз народнае "веча" — характэрны для аўтарытарнага праўлення і асоб з таталітарным мысленнем. Лукашэнка захоча паказаць Маскве і міжнароднай супольнасці, што ён любімы народам, і супраць гэтага не цапрэш".*

Не адвяргае Т.Процька і варыянт з “палатачным” выбраннем прэзідэнта. Але ён, на думку праваабаронцы, магчымы толькі пасля парламенцкіх выбараў, калі ў “палатцы” будуць гарантавана сядзець дзве трэці адданых Лукашэнку дэпутатаў і не будзе “катоў у мяшку”.

Які варыянт працягу прэзідэнцкіх паўнамоцтваў вызначыць сам А.Р. ужо, на мой погляд, няважна. Важна тое, што пра трэці лукашэнкаўскі тэрмін ужо гавораць практычна ўсе. А гэта, бадай, самае горшае. Палітыкі вядуць свой палітычны рэй, а ў мазгі звычайных людзей міжволі ўбіваецца думка: а што, можа, і на самай справе Лукашэнка застанецца на трэці тэрмін? Як пазбавіць шырокія грамадскія масы вось такой думкі — менавіта на гэта павінны звярнуць увагу тыя ж палітыкі, якія сёння мусіруюць самыя розныя версіі. Кіравацца трэба Канстытуцыяй, а не займацца палітычным штукарствам.

**Алесь СІЛІЧ.**

## Напад на Сяргея Антончыка

*Каля 8 гадзін раніцы на аўтастаянцы па праспекце газеты “Правда”, калі дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Сяргея Антончык садзіўся ў свой аўтамабіль, тры невядомыя мужчыны спартыўнага целаскладу спрабавалі заштурхнуць яго ў салон.*

Ударыўшы аднаго з нападаўшых дзвярыма машыны, Антончык вырваўся і кінуўся бегчы да найбліжэйшага прыпынку грамадскага транспарту. Убачыўшы, што за здарэннем назірае шмат сведак, нападаўшыя спынілі пераслед і з'ехалі на машыне “Жыгулі” 9-й мадэлі (дзярж. нумар 2138 МІ). Адначасова з імі ад аўтастаянкі ад'ехаў і другі аўтамабіль з таніраванымі шыбамі.

Міліцыю выклікаў вартаўнік аўтастаянкі. Падчас папярэдняга расследавання ён паведаміў, што напярэдадні вечарам ён бачыў групу невядомых мужчын, якія назіралі за стаянкай. У той вечар С.Антончык пакінуў машыну на стаянцы і вяртаўся дадому. з сябрам на яго машыне, што, мабыць, выратавала яго ад нападу. Антончык таксама даў паказанні міліцыі, апісаўшы аднаго з нападаўшых.

У інтэрв'ю БелаПАН ён заявіў, што прычынай нападу лічыць свой удзел у стварэнні інфармацыйнай сеткі “Айчына”. “Гэта сетка сямейнага тыпу, яе дзейнасць не афішыруецца, — сказаў ён. — Мы кожны дзень ездзім у розныя гарады, сустракаемся з людзьмі, сем'ямі, тлумачым неабходнасць дэмакратычных перамен. Наша праца звязана не толькі з парламенцкімі выбарамі, але і з прэзідэнцкімі. Зараз нас каля 300 чалавек, і з кожным днём становіцца ўсё больш”.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Пісьмовыя папярэджанні дзяржчыноўнікам

Офіс грамадскага абвінаваўцы па Беларусі (Эслінген, ФРГ) накіраваў беларускім дзяржаўным чыноўнікам, якія адказваюць за арганізацыю і правядзенне парламенцкіх выбараў восенню 2004 года, 70 пісьмовых папярэджанняў аб крымінальнай адказнасці ў выпадку парушэння выбарчага заканадаўства.

Як раней паведамляў БелаПАН, офіс грамадскага абвінаваўцы па Беларусі адкрыўся ў Германіі ў чэрвені 2004 года. Узначаліла арганізацыю ўдава вядомага беларускага палітыка Генадзя Карпенкі — Людміла КАРПЕНКА. Асноўныя кірункі працы офіса: прававы аспект рэферэндуму 1996 года, выбарчае заканадаўства Беларусі, расследаванне спраў людзей, якія зніклі без вестак у краіне. Арганізацыя займаецца зборам і апрацоўкай інфармацыі аб незаконных дзеяннях чыноўнікаў, правядзеннем расследаванняў, афармленнем абвінаваўчых заключэнняў і накіраваннем заведзеных спраў у міжнародныя судовыя інстанцыі.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Курсы замежных валют

*На 10 ліпеня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2159 рублёў
1 еўра — 2672,41
1 расійскі рубель — 74,17
1 аўстралійскі долар — 1557,18
1 балгарскі леў — 1366,50
1 дацкая крона — 359,47
1 СДР — 3191,07
1 ісландская крона — 30,24
10 японскіх іен — 198,88
1 казахскі тэнге — 15,96
1 канадскі долар — 1637,84
1 кувейцкі дынар — 7323,36
1 кыргызскі сом — 50,59
1 латвійскі лат — 4034,38
1 літоўскі літ — 774,00
1 малдаўскі лей — 182,19
1 нарвежская крона — 315,58
1 польскі злоты — 589,09
1 сінгапурскі долар — 1266,28
10.000 турэцкіх лір — 14,92
1 украінская грыўна — 406,01
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3996,42

**УВАГА!**

## Франтавікі, хавайце ўзнагароды!

Абуральнае па сваім цынізме злачынства адбылося ў Наваполацку ў дзень 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Уласна кажучы, менавіта гэтае свята і выкарыстаў пакуль што невядомы малады махляр. Ён зайшоў у кватэру да 73-гадовага ветэрана вайны і працы, назваў сябе супрацоўнікам неіснуючай друкарні “Саюздрук” і сказаў, што хоча сфатаграфаваць гаспадара пры ўсіх рэгаліях для новага гістарычнага выдання.

Стары паслухмяна апрануў парадны кіцель з усімі сваімі ўзнагародамі, у ліку якіх быў і ордэн Леніна.

І вось тут “фатограф” прапанаваў ветэрану “дзеля найбольшай выразнасці” на момант здымак зняць ордэн Леніна і замяніць яго муляжом, які, маўляў, выглядае больш прыгожа, чым арыгінал.

Даверлівы стары адчапіў сапраўдны ордэн, аддаў яго нязванаму госцю для замены, і апошні імгнення завалодаў галоўнай узнагародай ветэрана, пакінуўшы разгубленаму пенсіянеру муляж.

Дарэчы, усе ордэны і медалі савецкага часу даволі высока цэняцца на падпольным рынку рарытэтаў і ахвотна купляюцца айчыннымі і замежнымі калекцыянерамі. Ордэн Леніна, які зроблены з залатога сплаву і часткова — з плаціны, можна збыць амаль за тысячу долараў ЗША.

З кожным годам крадзяжы старых узнагарод на тэрыторыі Віцебшчыны здараюцца ўсё часцей.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЗАДУМАЕМСЯ...

# Выше и ниже ватерлинии

## Население Беларуси поделилось слишком неровно...

*Когда-то мой знакомый занимался культурой. Дальнейшая жизнь вырисовывалась вполне определенно, но вмешалась трагедия. После аварии на ЧАЭС знакомый вместе с семьей перебрался в Минск. Примерно в одно и то же время мы заселили типовые двухкомнатные квартиры в домах по соседству. Поскольку Антону не нашлось занятия по профилю, он занялся коммерцией — в начале 90-х не торговал только ленивый.*

*Сегодня условия изменились и меняются постоянно (в основном в худшую сторону), но мой оптимистичный знакомый торгует по-прежнему. Вместе с женой.*

*Однажды мы встретились на остановке, и я его поприветствовал:*

*— Да здравствует средний класс!*

*Правда, улыбки в ответ почему-то не заметил. Наоборот, услышал короткий, но страстный монолог. О богатых и бедных, о среднем классе и среднем уровне жизни... В принципе, ничего нового я не услышал, мой знакомый просто подтвердил то, что я и так знал. Либо догадывался. Хотя услышать подобное от непосредственного участника процесса — совсем другое дело...*

### Синдром бедности

Довольно часто эту даму можно встретить возле подъезда рано утром. Одета богато, на поводке — коккер-спаниель. Я обратил внимание: ее маршрут спланирован и включает в себя посещение мусоропровода. Долго ломал голову — может, это такой вид душевного расстройства? Наконец застал даму на "месте преступления" — она собирала бутылки... Душевная болезнь обернулась социальной.

...В категорию бедных в нашей державе попадает больше 70 процентов населения, считает известный социолог Сергей Шавель. При этом он различает три ступени бедности. Небольшая — когда можно свести концы с концами, но при этом необходимо твердо помнить, что следует учитывать все расходы, экономить, без калькулятора в гастроном не ходить. Заметная — так обозначает социолог следующий вид бедности. Это когда вы заменяете дорогие продукты дешевыми, отказываетесь от походов в кино или на выставку, не выписываете газет и т.д. Ну и наконец бедность катастрофическая. Это значит, что постоянного источника доходов нет, но есть некое пособие, настолько несущественное, что приходится посещать баки для мусора, собирать бутылки либо макулатуру, не отказываться от любого, пусть случайного заработка.

Кстати, согласно данным социологических опросов, к этой последней категории бедности причисляют себя более 9 процентов граждан Беларуси. К "заметным беднякам" относят себя около 30 процентов, к малообеспеченным — более 30.

Кто входит в группы бедных? Да кто угодно. Однажды у меня стрельнул сигарету кандидат физматнаук и объяснил: "Понимаете, сократили, а работу найти не могу... Кому я нужен в 55 лет?" Вообще, если говорить о социальном составе, то это: крестьяне (не все), малоквалифицированные рабочие или высококвалифицированные, которые работают на "неустойчивых" производствах, работники сферы обслуживания (рядовые), пенсионеры, многодетные семьи, безработные.

Что такое бедность в наших условиях? Есть свой критерий: невозможность за свой законный доход приобрести предметы первой необходимости. Кроме социальной стороны, есть психологическая — бедный человек по определению не может разделять взгляды экономически более состоятельного или богатого. Возникает полюсность мировоззрений — мы и вы. Нас больше, и нам живется плохо, вас меньше — и вам хорошо. Где справедливость?

Еще здесь можно говорить о так называемом синдроме бедности. Его можно понимать так: человек "сложил крылья" и ждет помощи не от себя, но от общества, от государства. Если оно помогает — оно хорошее, нет — значит, соответственно, плохое. Считается, что в развитых странах синдромом бедности "болеет" не более 2 процентов населения. Выходит, у нас этот критический предел превзойден в 2—3 раза. Такое общество, к сожалению, нельзя назвать стабильным.

### Синдром бедности (ретроспектива)

Понятное дело, Беларусь не есть уникальная страна, которая переживала разнообразные социально-экономические проблемы. Хрестоматийным стал пример преодоления "великой депрессии" в США. Тогда за чертой бедности оказались до 50 процентов американцев. Тогда же к власти пришел Франклин Делано Рузвельт, который провозгласил "новый курс". Любопытно отметить, что Рузвельт не делал ставку на социальные программы, как это принято в Беларуси. Все происходило в полном соответствии с американской традицией: пробуждение предпринимательской активности всех граждан Штатов. Иными словами: мы тебе поможем, но дело спасения утопающих — дело рук самих утопающих. Собственно, все держалось на трех китах: общественные работы, самозанятость, поддержка предпринимательства. Так выглядели радикальные меры по-американски.

У нас из трех этих "китов" не очень хорошо обстоит дело по крайней мере с двумя: самозанятостью и поддержкой предпринимательства. С общественными работами все замечательно, только заниматься ими народ почему-то не желает.

Чем у нас можно "самозаняться"? Разве что приусадебным хозяйством. Но когда вы начинаете продавать на рынке картошку, овощи, мясо, молоко, которые произведены в вашем хозяйстве, то возникают проблемы. С налоговой инспекцией, местной властью и т.д. Здесь мы вступаем в область, которая лишена логики. Если человек хочет и может обеспечить существование свое и своей семьи самостоятельно, без посторонней помощи, то зачем ему мешать? Вам нужны налоги? Возьмите. Но дайте делать то, на что вы претендуете, но сделать не можете...

Одно время в Министерстве транспорта и коммуникаций имела хождение идея: если в частном маршрутном такси число мест меньше 9 — лишать владельцев таких такси лицензии. Например, в случае принятия такого решения в одном только Могилеве лишилось бы работы несколько сот водителей. А плюс семьи? Всего бы получилось, что средств к существованию лишилось бы до двух тысяч человек. И государство вынуждено было бы помогать им материально. Слава Богу, пока идея остается нереализованной...

После Рузвельта войну бедности объявлял также президент Линдон Джонсон. Людям старшего возраста он запомнился как человек, который пробовал завоевать "братский" Вьетнам. Между тем при Джонсоне снижались налоги, расширялась подготовка рабочей силы, возникли целенаправленные образовательные программы, повысились те же социальные пособия для неимущих.

Все оказалось не так уж и сложно. Просто нужно было учитывать "закон маятника", по которому живет человеческое сообщество. Если одни зарабатывают слишком много, а другие — слишком мало, то необходимо сделать так, чтобы разбежка была не такая чувствительная. Для этого имеется соответствующий инструментарий. О нем нужно знать, а также знать, как им воспользоваться. Ради социальной стабильности.

Идеализировать опыт Америки, конечно, не стоит. Он не идеал. Слишком разные условия, возможности, цели и т.д. Скажем, высокооплачиваемый белорус вполне может заявить: "Да лучше я в Европе буду безработным, чем здесь — работающим". Ибо он не находит основательных мотиваций для работы либо предпринимательской деятельности на родине. Что весьма прискорбно, но понятно. Кстати, почти 90 процентов предпринимателей Республики Беларусь не хотят покидать историческую родину. Они хотят платить налоги и осуществлять свою деятельность законно (подчеркну). Правда, они при этом хотят платить налоги — разумные.

В последнее время благополучная Швеция сталкивается с нехарактерной для себя проблемой: у молодежи начинает пропадать мотивация к труду. В общем, ничего удивительного: стали бы вы чего-то добиваться, если бы вам платили 900—1000 долларов в месяц? Не считая всевозможных льгот? И я бы не "возникал".

В Беларуси ситуация немножко иная. Для поддержания бедных у государства денег явно не хватает. Как показывают прогнозы, хватать не будет и в дальнейшем. Интересно, почему в таком случае нужно тратить массу времени и приличную сумму денег, чтобы зарегистрироваться в качестве индивидуального предпринимателя? Почему при перерегистрации очередь в соответствующее ведомство нужно было занимать с 5 утра? И так далее, и тому подобное. И почему при "наведении порядка" в предпринимательской среде растет безработица? Как бы это логически объяснить? Да никто не объясняет. У нас не принято.

### Средний класс как противовес

У социолога Сергея Шавеля находим весьма интересное замечание относительно высказываний Ленина. Ну, вот, скажем: "...это законодательство (П.А.Столыпина. — **С.Ш.**), без сомнения, прогрессивное в научно-экономическом смысле". Тут же, впрочем, Ленин замечает: "После решения аграрного вопроса в столыпинском духе никакой иной революции... быть не может".

Собственно говоря, есть две точки зрения на существование среднего класса в Беларуси. Согласно данным госстатистики, его у нас нет. Статистика вообще не отслеживает эту группу населения. Но есть такое понятие как самоидентификация, когда человек сам определяет свою социальную принадлежность. Согласно ей, к среднему классу причисляют себя 3,5 процента белорусов. Это что касается, по Сергею Шавелю, высшего слоя среднего класса. Низший (по самооценке) составляет не более 23 процентов.

Разумеется, цифры могут меняться в зависимости от политической ситуации. Но в целом тенденция сохраняется на протяжении нескольких лет. 23 плюс 3, ну, 4 процента — 27 всего — и эти люди не могут влиять на общую ситуацию.

Тем более давайте вспомним Гегеля, сей философ выражался таким образом: *"Среднее сословие, к которому принадлежат и государственные чиновники, представляет собой средоточие государственного сознания и выдающейся образованности. Поэтому они являются главной опорой государства в отношении законности и интеллигентности"*.

Ну хорошо, это Европа, тип сознания там другой. Но дело в том, что, несмотря на кардинальную разницу в мировосприятии, законы экономики действуют всюду одинаково. Все держится именно на среднем уровне, что заметил еще Аристотель: *"Именно среднее состояние и только оно одно благоприятствует цели государства — достижению самодостаточного состояния, состоящего в счастливой и прекрасной жизни"*. Относительно "прекрасной жизни" лучше пока помолчать. Нам бы достичь этого самого "среднего состояния".

Ну а потом займемся *"прекрасной"* жизнью. То есть стабильной, без социальных катаклизмов, без катастрофического неравенства, которое мы наблюдаем сейчас, но с возможностью каждому поймать свою жарптицу. Маленькую или большую.

**Андрей СЕРЖАН.**



Набярэжная Свіслачы.

Фота Яўгена КОКТЫША.

ПУЛЬС

## Мост цераз Заходні Буг

Урачыстае адкрыццё новага моста цераз раку Заходні Буг на аўтадарожным памежным пераходзе Казловічы—Кукурыкі на беларуска-польскай мяжы адбудзецца 15 ліпеня.

Гэты памежны пункт пропуску лічыцца галоўнымі грузавымі варотамі Беларусі. Рашэнне аб будаўніцтве гэтага моста было прынята яшчэ ў 1997 годзе. З той пары прайшло амаль 7 гадоў, з якіх уласна будаўніцтва моста заняло 1,5 года, а астатні час быў затрачаны на падрыхтоўку дагавораў і неабходнай дакументацыі, узгадненне ўсіх спрэчных момантаў з польскім бокам.

Паводле сваіх тэхнічных характарыстык, гэта сучасны мост, што ўвасабляе найлепшыя айчынныя і замежныя дасягненні ў галіне мостабудаўніцтва. Агульная даўжыня моста складае 275,7 метра. Кошт будаўніцтва аб'екта складае 5,1 млн. долараў ЗША. Пры гэтым фінансаванне праводзілася беларускім і польскім бокам у роўных долях.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Інвестыцыі з Ірана

Іран ажыццявіць шэраг інвестыцыйных праектаў у Беларусі. Дамоўленасць аб гэтым была дасягнута падчас прайшоўшага ў Тэгеране 6-га пасяджэння змешанай беларуска-іранскай камісіі па пытаннях эканамічнага супрацоўніцтва.

У прыватнасці, як паведаміў на брыфінгу намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі беларускага МЗС Руслан Есін, іранскія інвестары возьмуць удзел у будаўніцтве сучаснай гасцініцы і спартыўнага комплексу ў Мінску, транспартна-лагістычнага комплексу ў СЭЗ "Мінск", а таксама ў мадэрнізацыі шэрагу беларускіх прадпрыемстваў.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## «Гроднапрамбуд» атрымала сертыфікат

Сертыфікат на адпаведнасць патрабаванням міжнароднага стандарта СТБ ISO 2000-2001 атрымала адкрытае акцыянернае таварыства "Гроднапрамбуд". Яно стала трэцім у Беларусі прадпрыемствам будаўнічага комплексу, якое атрымала такі сертыфікат.

**Аляксандр ХІЛІМОН.**

## Тралейбусы і трамваі на экспарт

Сёлета перад ДВУП "Белкамунмаш" пастаўлена задача — павялічыць аб'ём экспарту сваіх тралейбусаў на 13 працэнтаў. Летась прадпрыемствам іх было выраблена каля тысячы; 34 працэнты з іх пастаўлена за мяжу.

Сёння беларускія тралейбусы эксплуатуюцца ў Манголіі, Латвіі, Казахстане, Сербіі і Чарнагорыі. Але асноўным іх пакупніком застаецца Расія. Летась прадпрыемства паставіла расіянам 51 тралейбус. Асабліва цеснае супрацоўніцтва "Белкамунмаш" наладзіў з урадам Масквы. У другой палове бягучага года на вуліцах расійскай сталіцы з'явяцца яшчэ 20 мінскіх тралейбусаў.

Цяпер завяршаецца адгрузка ў Бялград 12 тралейбусаў на суму 1,8 млн. еўра. Вырашаецца пытанне пастаўкі 20 тралейбусаў у Сафію.

Што тычыцца пастаўкі беларускіх трамваяў на замежныя рынкі, то прадпрыемства "ўжо працуе ў Сербіі і Чарнагорыі, а таксама з Расіяй і Украінай па гэтым пытанні".

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

# 12 из 80

## В Минске прошла церемония награждения лауреатов конкурса «Человек Дела — 2004»

Она состоялась в Минске во Дворце Республики. Дипломы и памятные призы руководителям 12 наиболее динамично развивающихся отечественных и иностранных предприятий, работающих на белорусском рынке, вручили главный редактор журнала "Дело (Восток+Запад)" Виктор Жук и возглавляющий экспертный совет журнала директор Института экономики Национальной академии наук Беларуси Петр Никитенко.

Было отмечено, что основной критерий отбора — масштаб личности. При этом также учитываются объективные показатели, которые позволяют судить о состоянии тех предприятий, которыми руководят кандидаты в лауреаты. В нынешнем году кандидатов было 80.

Лауреатом конкурса в номинации "За успешное применение новых технологий и методов управления" стал генеральный директор ООО "Трайпл" Юрий Чиж. Сегодня брэнд "Трайпл" объединяет 17 различных юридических лиц. Наряду с оптовой торговлей потребительскими товарами и продуктами питания, компания задействована в производстве строительных конструкций из ПВХ-профилей, алюминия, дерева, в выпуске безалкогольных напитков, международных автогрузоперевозках, торговле нефтепродуктами. Ей принадлежат магазины фирменной одежды марки "Tom Tailor" и "UnlSport" и рестораны под торговой маркой "Раковский бровар".

В номинации "За стабильную и эффективную работу на белорусском рынке" лауреатом конкурса стал генеральный директор РО "Белтелеком" Николай Круковский. Возглавляемое им предприятие обладает современной инфраструктурой связи, которая позволила расширить объемы и повысить качество предоставляемых услуг. По количеству телефонов на душу населения — 84,4 на 100 семей — Беларусь уверенно лидирует среди стран СНГ.

Лауреатом в номинации "За активное содействие развитию аграрного сектора Беларуси" стал генеральный директор Минского тракторного завода Александр Пуховой. МТЗ входит в десятку крупнейших мировых производителей тракторов и активно работает на рынках более 60 государств. В текущем году предприятие изготовит более 30 тыс. тракторов, большая часть которых будет поставлена в зарубежные страны.

За поддержку в трудное время белорусских коллег-предпринимателей лауреатом конкурса объявлен руководитель Ассоциации непальских бизнесменов в странах СНГ, директор ЗВАО "Синтез-ММ" Нирадж Шрестха. Н.Шрестха координирует привлечение инвестиций в наукоемкие производства Беларуси. В числе заметных проектов ассоциации — сотрудничество с ОАО "Амкодор" — крупнейшим производителем дорожно-строительной, коммунальной, снегоуборочной, аэродромной, специальной, лесной и сельскохозяйственной техники. Кстати, господин Шрестха выступал на белорусском языке.

Лауреатами конкурса в других номинациях стали: глава представительства компании "Славнефть" в Беларуси, генеральный директор СП ЗАО "Славнефть-Старт" Сергей Шевченко, генеральный директор ГПУП "Белкоммунмаш" Иван Сафонов, председатель правления ЗАО "БелСвиссБанк" Виталий Казбанов, генеральный директор ЗАО "Техника и коммуникации" Григорий Бондарев, генеральный директор ЗАО "Холодон" Владимир Луконин, председатель совета директоров ЗАО "Интеллект" Сергей Варивода, директор ОАО "Кондитерская фабрика "Слодыч" Наталья Ломаско, директор клуба "Bronx" Вадим Прокопьев.

**Подготовил к печати Сергей ИВАНОВ.**

БЕСПРАЦОЎЕ

# Мільярд рублёў — на «бой з ценем»

*Неймаверна цяжка давесці ўзровень беспрацоўя да двух працэнтаў, як таго патрабуюць улады. Ну, а калі ўжо заданне прагучала з высокай трыбуны, то і грошы на яго выкананне адпускаюцца велізарныя, на зайздрасць ахове здароўя і культуры. Адпускаюцца яны, як правіла, дарэмна, бо для паспяховай барацьбы з беспрацоўем неабходныя як мінімум дзве ўмовы — наяўнасць падрыхтаванай рабочай сілы і жаданне людзей працаваць. На жаль, існуе недахоп абодвух гэтых фактараў, аб чым сведчыць дзейнасць Віцебскага гарадскога цэнтра занятасці насельніцтва.*

Сёлета Цэнтр мусіць накіраваць на стварэнне рабочых месцаў каля мільярда бюджэтных рублёў, што значна больш, чым у папярэднія гады. Аднак намаганні супрацоўнікаў Цэнтра збіць хвалю беспрацоўя пастаянна сутыкаюцца з неадольнымі цяжкасцямі.

Адной з найбольш вострых праблем з'яўляецца маладзёжнае беспрацоўе. У Віцебску шмат беспрацоўных ва ўзросце ад 16 да 25 год, якія бадзяюцца без справы, а самі знайсці яе не могуць, бо не маюць прафесіі. Калі раней такіх дзяўчат і юнакоў навучалі розным спецыяльнасцям у цэхах прадпрыемстваў (і многія з нядаўніх няўмек з цягам часу станавіліся выдатнымі майстрамі), то цяпер практыка рабочага вучнёўства адышла ў вобласць успамінаў, суб'екты гаспадарання адхрышчваюцца ад учарашніх школяроў і тым больш ад непаўналетніх.

Да прыкладу, у 2003 годзе, нягледзячы на даведзеную прадпрыемствам абавязковую квоту (бронь) па прыёме на працу падлеткаў, не ўзялі на работу ніводнага непаўналетняга на прыборабудаўнічым заводзе, мясакамбінаце, у акцыянерным таварыстве "Віцебскія дываны" і на шэрагу іншых прадпрыемстваў. Вызначаныя законам да такіх парушальнікаў штрафныя санкцыі, прымененыя Цэнтрам занятасці, адлятаюць ад кіраўніцтва вытворчых калектываў, як гарох ад сцяны.

Маштабы намаганняў Цэнтра па ўцягненні беспрацоўных у прадпрымальніцтва апошнім часам растуць. Калі ў 2003 годзе, — гаворыць дырэктар Віцебскага Цэнтра занятасці Павел Новікаў, — на гэтыя мэты мы выдаткавалі 90 мільёнаў рублёў, то сёлета аналагічную суму аддалі ўжо за студзень-красавік.

— Разам з тым, — працягвае П.Новікаў, — ёсць праблемы, якія наш калектыў вырашыць не можа. У нас цяпер зарэгістравана 8 тысяч беспрацоўных і пастаўлена задача ледзь не ўдвая скараціць іх колькасць у асноўным за кошт уладкавання на працу. Але наўрад ці гэта магчыма, бо ёсць беспрацоўныя (і нямала!), якія ўпарта адмаўляюцца ад прапанаваных намі варыянтаў працаўладкавання, спасылаючыся на іх непрывабнасць, нізкую зарплату і г.д.

Карэнныя станоўчыя зрухі ў скарачэнні беспрацоўя могуць адбыцца толькі ва ўмовах сапраўды эфектыўнай эканомікі, што трымаецца не на драконаўскай сістэме падаткаў і бюракратычных абмежаванняў, а на раскаванай дзелавой ініцыятыве народа, аб чым у сучаснай Беларусі з яе "рынкавым сацыялізмам" і татальным кантролем нават марыць немагчыма.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ



# Спеюць трускалкі ля сажалкі...

*Каб вы толькі бачылі, якая гэта прыгажосць! Роўныя рады трускалак! На фоне зялёнага лісця чырвоныя буйныя ягады. Яны збягаюць з узгорка да невялікай сажалкі, што таксама размешчана на сядзібе. Ды чаго тут толькі няма, на сядзібе фермера з вёскі Баравікі Дзятлаўскага раёна* ***Уладзіміра СІНЕВІЧА****, чым толькі не захапляўся гэты гаспадарлівы, няўрымслівы і таленавіты чалавек!*

Шмат гадоў таму, калі фермерства яшчэ толькі зараджалася, ён, інжынер лясной гаспадаркі па адукацыі, пайшоў да старшыні мясцовага калгаса "Расія" Пятра Пятровіча Свіба прасіць пару гектараў зямлі. Ужо тады ў яго была задумка ў маляўнічым месцы пры лясным масіве пабудаваць сабе дом, выкапаць сажалку, палеткі засадзіць бульбай, засеяць ячменем. Але гэта было толькі ў марах. На самай жа справе зрабіў невялічкі часовы домік, дзе і пасяліўся, узяў у дзяржавы крэдыт і купіў трактар, прычапны інвентар да яго.

З таго часу і па сённяшні дзень, хоць мінула ўжо больш за дзесяць гадоў, ён устае ў пяць гадзін раніцы і кладзецца спаць тады, калі ў вёсцы Баравікі ўжо не свеціцца ніводнае акно. Ён абходзіць свае ўладанні, падводзіць вынікі зробленага і намячае планы на заўтра. У Уладзіміра Дзмітрыевіча, бадай, не было і няма адной, так бы мовіць, генеральнай лініі, ад якой не адхіляўся б. Чаго ён не паспрабаваў у сваім фермерскім жыцці, чым толькі не займаўся! Вырошчваў бульбу, ячмень, грыбы-вешанкі і вучыў людзей, як трэба правільна займацца гэтай даволі прыбытковай справай, прадаваў насенне.

Потым захапіўся свінагадоўляй. Бульба і збожжа свае — чаму б і не паспрабаваць? Наняў некалькі рабочых па доглядзе за жывёлай, ветэрынара.

А душа імкнулася да нечага новага. Адкрыў некалькі ўласных магазінаў у розных кутках раёна, дзе людзі маглі набыць прамысловыя і харчовыя тавары.

Адмовіўшыся ад свінагадоўлі, заняўся вырошчваннем курэй-нясушак. Ён паказаў сваю птушкаферму, якая не магла не выклікаць замілавання. Па чыстым прасторным памяшканні бегаюць, так бы мовіць, нясушкі-падлеткі. Жвавенькія, пярэсценькія, яны ўжо праз два-тры месяцы будуць несці яйкі.

— Іх у мяне было шмат, — кажа гаспадар. — Недзе каля тысячы прадаў, а больш за пяцьсот пакінуў. Яйкі ад іх неўзабаве буду прадаваць. Да таго ж патрэбен гной для вырабу гумусу. Змешваю яго з тарфакрошкай, дабаўляю туды каліфарнійскіх чарвякоў, і яны робяць вельмі каштоўную рэч — гумус. Гэта як шакалад для зямлі. На ім вельмі добра растуць галандскія трускалкі. Бачылі вунь радочкі ля сажалкі? Іх там трыццаць сотак. Настаў час убіраць ураджай і везці яго на рынак.

Ягады сакавітыя, вялізныя. У шклянку больш за дзве не ўлезе. Без перабольшвання кажу. Пры сёлетнім няласкавым на цяпло леце гаспадар мае па дзесяць вёдзер духмяных, цудоўных трускалак з кожнай соткі. Такую прадукцыю пакупнікі, што называецца, адрываюць з рукамі.

Уладзімір Дзмітрыевіч сеў у свой легкавік і запрасіў праехаць на недалёкае поле, што пачынаецца адразу ж за сасновым ляском. Там ён толькі што разбіў новыя плантацыі трускалак.

— Хачу прасіць яшчэ больш зямлі, каб засадзіць імі хаця б тры гектары, — з летуценнасцю ў голасе кажа фермер. — Для гэтага наняў працавітых жанчын. Яны пастараюцца. Трэба будзе і ахову наймаць. Людзям дам работу. І мне будзе карысць.

Вырошчваць трускалкі няпроста. Трэба своечасова падразаць "вусікі", падкормліваць, праполваць, сачыць, каб не напала якая тля. Словам, толькі паспявай паварочвацца.

Рынак збыту — таксама справа важная. Пры такім ураджаі па карзінцы на кірмаш вазіць не будзеш. Пажадана здаваць оптам. Добра, што санаторый "Радон", як кажуць, пад бокам. А ён для сваіх адпачываючых вітамінаў не шкадуе.

Ёсць у гэтага няўрымслівага, таленавітага чалавека яшчэ адна мара. Ён прыдбаў у аднаго знаёмага старадаўнюю карэту, у якіх некалі (можа гадоў з трыста таму) ездзілі вяльможныя людзі. Як такі цуд захаваўся да нашага часу — сказаць цяжка. Толькі знайшоў яго Уладзімір Дзмітрыевіч і прыцягнуў у сваю сядзібу.

— Навошта табе? — дзівіўся гаспадар. — На ёй жа нават колаў няма.

— Усё будзе. І колы будуць. І пракачу я цябе ў гэтай карэце з вецярком, нібы якога вяльможнага пана.

— Бачыце, часткова ўжо адрэстаўрыраваў гэту сапраўды дзівосную рэч. Колы пастаўлю гумовыя. Рысоры належныя — усё як мае быць. А калі справа будзе завершана, куплю коніка поні. Карэта будзе ездзіць па асфальтаваных дарожках санаторыя "Радон" і катаць адпачываючых. А месцы там маляўнічыя, прыгожыя. Ёсць на што паглядзець. Ды і экзотыка...

Самую першую сваю мару — пабудаваць дом і выкапаць сажалку — ён ужо здзейсніў даўно. Прыгожы дом, высокі, цагляны. А ў сажалцы водзіцца рыба, бо і ёй іншы раз перападае каліфарнійскі чарвяк.

Гляджу на яго, стомленага, у шортах і майцы, лёгкіх сандалях, і думаю, што Уладзімір Дзмітрыевіч нечым вельмі нагадвае амерыканскага фермера. Але не, гэта наш чалавек. На нашай зямлі ён вырас, узмужаў і ўсё робіць дзеля таго, каб стала яна больш ураджлівай і прыгожай.

У Уладзіміра Сіневіча шмат зайздроснікаў. Асабліва з ліку гультаёў, якім чужыя грошы рукі мазоляць.

— І навошта яму ўсё гэта? Была б хоць сям'я, а то адзін жыве і гэтак працуе ад зары да зары!

Я не задавала яму такога бястактнага пытання, але адказ ведаю напэўна: душа просіць!

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

